# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 5 (88) Травень 2014 г.


## Андрэй Гайдукоў – на волі!

*Вызваленьне з калёніі «Віцьба-3»* ***палітвязьня Андрэя Гайдукова*** *стала сапраўднай спэцапэрацыяй, арганізаванай з мэтай не дапусьціць ягоную сустрэчу ля турэмнай брамы. 8 траўня Андрэю Гайдукову загадалі пачаць зьбіраць рэчы а 6-й раніцы, хоць звычайна з калёніі выпускаюць аб 11-й. А 7-й яго пасадзілі ў міліцэйскі аўтамабіль, адвезьлі на вакзал у Віцебску, далі 20 тысяч рублёў, каб ён змог даехаць да сваякоў. Такім чынам, каля турэмнай брамы яго сустрэць не ўдалося.*

**Па сваім вызваленьні Андрэй Гайдукоў распавёў: «Маральна я адчуваю сябе выдатна, а фізычна трэба адпачыць і аднавіць сілы. Але ў цэлым лепш, чымся там. Дык што настрой нармальны, плянаў дастаткова, і ёсьць, чым заняцца».**



Андрэй Гайдукоў

Былы палітвязень адзначыў, што ўсяго ён прайшоў 10 этапаў: «Калі мяне арыштавалі, адразу адправілі на месяц у КДБ, потым павезьлі ў Віцебскі СІЗА - таксама амаль на месяц, потым назад у КДБ - на пяць месяцаў, і зноў назад у Віцебск - на тры месяцы. Пасьля ў ВК-19 - на сем месяцаў, а адтуль, пад канец тэрміну, - на месяц у «Віцьбу-3», каб я адчуў і параўнаў усё «хараство» гэтай сыстэмы».

**«Горш за ўсё сядзелася, вядома, у СІЗА КДБ. Там вельмі халодна. А ўзімку знаходзіцца там было наогул немагчыма. Усе спалі ў куртках, але ўсё адно прачыналіся ад холаду. У «Віцьбе-3» мяне на 10 дзён кінулі ў карцэр. Мяне прывезьлі, і дня праз чатыры - адразу ў карцэр. Пакуль я там сядзеў, усе мае дакумэнты незаконна праверылі. То бок я меў зносіны зь людзьмі, якія перадавалі празь мяне скаргі, напрыклад, у пракуратуру. Усё яны гэта праверылі, і нешта забралі»**, - канстатаваў Андрэй Гайдукоў.

Актывіст упэўнены, што так, як яго, улады могуць пасадзіць кожнага чалавека. «Спачатку мяне і маіх бацькоў неаднаразова папярэджвалі, таму што мы рыхтавалі рэгістрацыю «Саюзу маладых інтэлектуалаў». У мяне ўжо быў цалкам гатовы пакет для Мін'юсту, патрэбна была толькі ўстаноўчая канфэрэнцыя, але за тры дні да яе мяне арыштавалі. Да гэтага мы шукалі фінансаваньне на сваю дзейнасьць, зьвярталіся ў розныя фонды, у тым ліку ў фундацыю амбасады ЗША ў Летуве. Але адказаў не было. Потым прыйшоў адказ нібыта з фундацыі амбасады ЗША, які насамрэч напісаў супрацоўнік віцебскай контрвыведкі», - сказаў ён.

**Пры гэтым Андрэй Гайдукоў адзначыў, што ў шпіянажы яго не абвінавачвалі: «Я быў затрыманы па тым самым артыкуле, паводле якога мяне судзілі і які прадугледжвае да двух гадоў пазбаўленьня волі. Мінула тры дні пасьля затрыманьня, і мяне трэба было адпускаць пад падпіску аб нявыезьдзе. Але паколькі я не даваў патрэбных паказаньняў, нікога не здаваў і не рабіў таго, чаго яны хацелі, яны перакваліфікавалі абвінавачваньне на «замах на здраду дзяржаве, пагрозу нацбясьпецы, зьвяржэньне дзеючага канстытуцыйнага ладу, перадачу інфармацыйных і аналітычных справаздач».**

Па гэтым абвінавачваньні сем месяцаў ішло сьледзтва. Але на судзе ўсё пачало развальвацца. Плюс дало грамадзкі рэзананс апублікаваньне майго ліста. Гэта значыць арыштавалі мяне паводле артыкулу за «злачынства, якое не ўяўляе вялікай грамадзкай небясьпекі», праз тры дні перакваліфікавалі яго ў «асабліва цяжкае» - ад 7 да 15 гадоў, а на судзе ўсе лёгка вярнулі назад. З ксяндзом Лазарам было нешта падобнае».

*Нагадаем, 1 ліпеня 2013 году актывіста апазыцыі Гайдукова прызналі вінаватым у спробе ўстанаўленьня кантактаў з замежнай выведкай і прысудзілі да 1,5 гадоў калёніі. Прысуд яму вынес Віцебскі абласны суд, а паседжаньне праходзіла ў закрытым рэжыме.*

# Незалежная псыхіятрычная экспэртыза не пацьвердзіла дыягназ доктара Пастнова


Ігар Пастноў

**Паводле высноваў адмыслоўцаў з грамадзкай арганізацыі «Незалежная псыхіятрычная асацыяцыя Расеі», падставаў для прымусовай шпіталізацыі віцебскага «лекара-праўдаруба» ў «псыхушку» не было. У красавіку Ігар Пастноў езьдзіў у Маскву на незалежны агляд, бо імкнуўся аспрэчыць дыягназ, пастаўлены яму віцебскімі псыхіятрамі. Таксама ён імкнуўся спраўдзіць, ці была неабходнасьць «ізаляваць» яго ад грамадства шляхам прымусовага зьмяшчэньня ў псыхіятрычнае аддзяленьне паводле рашэньня суду.**

Віцебскі лекар прайшоў шэраг мэдычных тэстаў і атрымаў пісьмовы дакумэнт, які зь ягонага дазволу апублікаваны на незалежным інтэрнэт-рэсурсе *freeregion.info*. Паводле высноваў незалежных расейскіх экспэртаў, дыягназ віцебскіх псыхіятраў — «параноідНае разладзьдзе асабовасьці з устойлівымі квэрулянцкімі тэндэнцыямі» — выклікае сумневы, бо ў Ігара Пастнова «ніколі не было ніякай падазронасьці, нядобразычлівага або насьцярожанага стаўленьня да навакольных». А імкненьне аднавіць справядлівасьць, барацьба за правы іншых людзей — гэта рыса ягонага характару, на думку адмыслоўцаў з грамадзкай арганізацыі «Незалежная псыхіятрычная асацыяцыя Расеі».

«Такім людзям, за кошт гэтых іхных не заўсёды прыемных асаблівасьцяў, мы абавязаныя прарывам закасьцянелых стэрэатыпаў нашага бюракратычнага ладу», — пішуць расейскія псыхіятры. Яны падкрэсьліваюць, што звышкаштоўнай ідэяй для Пастнова заўжды было адстойваньне інтарэсаў іншых людзей і што гэта нельга разглядаць як «квэрулянцкія тэндэнцыі» — інакш кажучы, як імкненьне шляхам пісаньня скаргаў, зваротаў у вышэйшыя інстанцыі дасягнуць нейкіх уласных карысьлівых мэтаў. Дзейнасьць Ігара Пастнова псыхіятры кваліфікуюць як «праваабарончую», згадваючы ягоныя відэавыступы праз *youtube.com* з крытыкай на адрас мясцовых уладаў і стану мэдычных установаў вобласьці.

**Адмыслоўцы лічаць, што для прымусовага зьмяшчэньня Ігара Пастнова на псыхіятрычнае лекаваньне ў жніўні мінулага году не было дастатковых падставаў. Бо ягоны стан адлюстроўваў толькі абвастрэньне рысаў ягонага характару і ані не ўяўляў небясьпекі ні для грамадзтва, ні для яго самога.** Псыхіятры зьвяртаюць увагу і на парушэньне правоў Ігара Пастнова пры зьмяшчэньні ў «псыхушку»: яго забралі туды проста з працы — зь іншага аддзяленьня абласнога шпіталя, у якім ён на той час працаваў, не далі магчымасьці прысутнічаць на судзе, зьвязацца з адвакатам, паведаміць пра сваё становішча блізкім людзям.

Віцебскага «лекара-праўдаруба» забралі ў псыхіятрычнае аддзяленьне 16 жніўня мінулага году, 20 жніўня суд санкцыянаваў для яго прымусовае псыхіятрычнае лекаваньне, якое ён праходзіў на працягу месяца. 29 жніўня праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» заявіла пра гатоўнасьць прызнаць Пастнова вязьнем сумленьня. 2 верасьня была прынятая сумесная заява БХК і ПЦ «Вясна» з нагоды прымусовай шпіталізацыі Ігара Пастнова. Беларускія праваабаронцы заклікалі кампэтэнтныя органы «неадкладна вызваліць Ігара Пастнова са стацыянару і перагледзець рашэньне аб яго прымусовай шпіталізацыі ў адкрытым працэсе з захаваньнем устаноўленых працэдур і прынцыпаў справядлівага судовага разгляду».

# Незалежную журналістку пазбавілі магчымасьці абскардзіць рашэньне міліцыі


Алена Сьцяпанава

**Журналістка Алена Сьцяпанава** атрымала пісьмовае паведамленьне з Кастрычніцкага РАУС Віцебску пра тое, што адміністрацыйная справа, распачатая супраць яе, скасаваная. Аднак афіцыйную пастанову ёй не даслалі, і тэрмін для абскарджаньня пастановы ўжо скончыўся.

Замест пастановы пра скасаваньне адміністрацыйнай справы, распачатай 15 красавіка супрацоўнікам Кастрычніцкага РАУС Сяргеем Вяраксам, у канпэрце быў толькі ліст з паведамленьнем, якое хутчэй азадачыла, чымся ўсьцешыла журналістку.

*"Пастанову пра скасаваньне адміністрацыйнай справы мне не даслалі. А з таго ліста, дзе напісана, што тэрміны адміністрацыйнага спагнаньня ўжо прайшлі, і таму справа касуецца, я даведалася дужа дзіўныя рэчы. Паводле меркаваньня супрацоўнікаў міліцыі, я без акрэдытацыі супрацоўнічала з "Радио Свободная Европа — Радио Свобода" — гэта напісана ў лісьце за подпісам намесьніка начальніка Кастрычніцкага райаддзелу міліцыі А. Захарчанкава.*

*Менавіта так называецца руская служба радыё, якая мае ўласны сайт і этэрны час, і перадусім асьвятляе падзеі ў Расеі. Ніякіх матэрыялаў пра Віцебск ад 20.01.2014 г. на сайце няма, хаця міліцыянты сьцьвярджаюць, што менавіта ў гэты дзень я "асьвятляла падзеі, што адбываюцца на тэрыторыі г. Віцебску без акрэдытацыі журналіста". Парушыўшы, такім чынам п.1 арт.1 Закону РБ "Аб СМІ"... Суцэльная блытаніна, якая нагадала мне папярэджаньне абласной пракуратуры, абвешчанае ў 2012 годзе. Там гаварылася, што я нібыта супрацоўнічаю з чэскай рэдакцыяй Радыё Свабода. Якая не існуе ўжо больш за 10 год!"* — распавяла Алена Сьцяпанава.

Віцебскі праваабаронца Павал Левінаў заўважыў у лісьце зь міліцыі ня толькі фактычную блытаніну, але і парушэньне законных правоў журналісткі:

*"Справа супраць Алены Сьцяпанавай скасаваная 25 красавіка. Аднак ліст з Кастрычніцкага РАУС датаваны 2 траўня. Не на працягу належных 5-ці дзён, а толькі на сёмыя суткі. Алена атрымала ліст толькі 3 траўня, наступны дзень быў выходны, так што з 10-дзённага тэрміну на абскарджаньне міліцэйскага рашэньня ёй "пакінулі" 1 дзень. Найхутчэй, у міліцыі нават не падумалі, што журналістка захоча падаваць скаргу, паколькі справа і так скасаваная. Але скасавалі яе, хачу заўважыць, не праз недаказанасьць правапарушэньня, а толькі праз тое, што прамінулі 2 месяцы, на працягу якіх справу можна было перадаць у суд і накласьці спагнаньне. Таму, я лічу, бараніць свае інтарэсы Алене Сьцяпанавай варта было б да канца, бо яе ўжо ня першы раз спрабуюць прыцягнуць да адказнасьці за журналісцкую дзейнасьць".*

Улетку 2013 году той самы супрацоўнік Кастрычніцкага РАУС Сяргей Вяракса падрыхтаваў дакумэнты па адміністрацыйнай справе супраць Алены Сьцяпанавай і нават перадаў іх у суд Кастрычніцкага раёну гораду. Аднак судзьдзя Іна Грабоўская вярнула матэрыялы назад у міліцыю: яна адмовілася судзіць журналістку, бо ня ўбачыла абгрунтаваных фактаў парушэньня заканадаўства.

# Дзяржорганы адмовіліся зьвяртацца ў Канстытуцыйны суд



Леанід Сьвецік

**Віцебскі праваабаронца Леанід Сьвецік ня здолеў пераканаць найвышэйшыя дзяржаўныя органы зьвярнуцца ў Канстытуцыйны суд Беларусі. Праваабаронца хацеў даведацца пра пазыцыю суду наконт адпаведнасьці артыкулаў 120, 122-124 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу Канстытуцыі краіны і міжнародным дамовам.**

Згодна зь дзеючым заканадаўствам беларускія грамадзяне ня маюць права наўпрост зьвяртацца ў Канстытуцыйны суд. Такім правам валодаюць толькі некалькі вышэйшых дзяржаўных органаў і адна службовая асоба: Палата прадстаўнікоў або Савет Рэспублікі Нацыянальнага Сходу, Вярхоўны суд, Вышэйшы гаспадарчы суд, Савет міністраў, прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь. Па іх зваротах Канстытуцыйны суд дае заключэньні — у прыватнасьці, заключэньні наконт адпаведнасьці законаў, дэкрэтаў, указаў прэзыдэнта, міжнародных дамоўных і іншых забавязаньняў Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь.

Зьвяртаючыся ў найвышэйшыя дзяржаўныя органы ўлады, Леанід Сьвецік прасіў іх зьвярнуцца ў Канстытуцыйны суд для таго, каб ён вырашыў пытаньне аб адпаведнасьці некаторых артыкулаў Крымінальна-працэсуальнага закону дзеючай Канстытуцыі і стандартным мінімальным правілам ААН у дачыненьні да мер, не зьвязаных з турэмным зьняволеньнем (Такійскі правілы).

У сваёй заяве праваабаронца прывёў наступныя аргумэнты:

*Падчас вытворчасьці па крымінальнай справе дазнаўца/сьледчы ў дачыненьні да падазраванага (абвінавачванага) можа выбіраць і прымяняць меры стрыманьня ў выглядзе падпіскі аб нявыезьдзе і належных паводзінах (арт. 120 КПК РБ), перадачы асобы, на якую распаўсюджваецца статус ваеннаслужачага, пад назіраньне камандаваньня вайсковай часткі (арт. 122 КПК РБ), аддачы непаўналетняга пад нагляд (арт. 123 КПК РБ), заклад (арт. 124 КПК РБ). Заканадаўца, калі зыходзіць зь літаральнага прачытаньня тэксту крымінальна-працэсуальнай нормы, не прадугледзеў атрыманьня згоды асобы (падазраванага або абвінавачванага), у дачыненьні да якой выбіраюцца і ўжываюцца вышэй пералічаныя меры стрыманьня.*

*Відавочна, што меры стрыманьня маюць псыхалягічна-прымусовы характар — абмяжоўваюць свабоду абвінавачванага (падазраванага) псыхічным узьдзеяньнем. Гэтыя меры не зьвязаныя з ізаляцыяй ад грамадзтва, не пасягаюць на само ядро правоў, гарантаваных артыкулам 25 Канстытуцыі РБ (свабода, недатыкальнасьць і годнасьць асобы) і звычайна зьвязаныя зь некаторымі ўмовамі іх ажыцьцяўленьня, а таксама спалучаныя з абмежаваньнем права, прадугледжанага артыкулам 30 Канстытуцыі РБ (права свабодна перамяшчацца і выбіраць месца жыхарства).*

*Псыхалягічна-прымусовыя меры павінны выбірацца і прымяняцца ў межах тэрмінаў папярэдняга расьсьледаваньня і судовага разбору і пры згодзе зацікаўленых асобаў (а часам толькі пры іх хадайніцтве). Толькі ў гэтым выпадку ёсьць вялікая імавернасьць таго, што гэтыя забавязаньні будуць выкананыя абвінавачваным (падазраваным).*

*Палажэньні ж артыкулаў 120, 122, 123 і 124 КПК РБ як паводле літаральнага сэнсу, гэтак і паводле сэнсу, надаванага ім правапрымяняльнай практыкай, не прадугледжваюць падчас дасудовай вытворчасьці па крымінальнай справе атрыманьня згоды абвінавачванага (падазраванага).*

*Псыхалягічна-прымусовыя меры стрыманьня рэгулююцца Стандартнымі мінімальнымі правіламі ААН у дачыненьні да мер, не зьвязаных з турэмным зьняволеньнем (Такійскія правілы), прынятымі Рэзалюцыяй Генэральнай Асамблеі ААН, ад 14.12.1990 № 45/110. Згодна з п. 3.4 гэтых правіл не зьвязаныя з турэмным зьняволеньнем меры, якія накладваюць якое-небудзь забавязаньне на абвінавачванага (падазраванага) і якія прымяняюцца да фармальнага разбору або суду або замест іх, патрабуюць згоды абвінавачванага (падазраванага).*

*Такійскі правілы зьяўляюцца складовай часткай заканадаўства Рэспублікі Беларусь у сілу часткі 1 артыкулу 8 Канстытуцыі РБ (прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права), маюць большую юрыдычную моц у адносінах да звычайнага закону - беларускага Крымінальна-працэсуальнага кодэксу. Такім чынам, палажэньні артыкулаў 120, 122, 123 і 124 КПК РБ не адпавядаюць ані Канстытуцыі, ані міжнародным дамовам.*

Аднак гэтыя аргумэнты ня сталі пераканаўчымі ні для прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, ні для Палаты прадстаўнікоў і Савету Рэспублікі, ні для Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў, ні для Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Так, намесьнік старшыні Вярхоўнага суду Валер Калінковіч паведаміў, што падставаў для пастаноўкі перад Канстытуцыйным судом пытаньня аб праверцы канстытуцыйнасьці палажэньняў артыкулаў 120, 122, 123 і 124 КПК ня маецца. Сваю адмову зьвярнуцца ў КС сп. Калінковіч матываваў наступным чынам:

*«Мінімальныя стандартныя правілы Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў у дачыненьні да мер, не зьвязаных з турэмным зьняволеньнем (Такійскі правілы, прынятыя 14 сьнежня 1990 г. Рэзалюцыяй 45/110 Генэральнай Асамблеі ААН), на якія дадзена спасылка ў абгрунтаваньне Вашага пункту гледжаньня, не датычаць міжнародных дамоваў Рэспублікі Беларусь і носяць рэкамэндацыйны характар. Апроч таго, як вынікае з заўвагі, што зьмяшчаецца ў тэксьце Такійскіх правілаў, яны падлягаюць прымяненьню з улікам палітычных, эканамічных, сацыяльных і культурных умоў кожнай краіны, а таксама мэтаў і задач яе сыстэмы крымінальнага правасудзьдзя (пункт 1.3)».*

Падобнай пазыцыі прытрымліваюцца ў адміністрацыі прэзыдэнта і ў абедзьвюх палатах беларускага парлямэнту.

А Савет Міністраў і зусім ня стаў абгрунтоўваць сваю адмову. Начальнік аддзелу па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб апарату Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь А. Коўшар толькі паведаміў, «што Прэзыдыюмам Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь 1 красавіка 2014 г. прынятае рашэньне аб адмове ў задавальненьні Вашай просьбы аб накіраваньні Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у вызначаным парадку у Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь прапановы аб праверцы на адпаведнасьць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь артыкулаў 120, 122-124 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь».

**Тым ня менш праваабаронца выказаў задавальненьне той акалічнасьцю, што найвышэйшыя дзяржаўныя органы ўлады збольшага сур'ёзна паставіліся да яго заявы, глыбока і ўсебакова аргумэнтавалі сваю адмову зьвярнуцца ў КС. Ён шкадуе толькі пра тое, што яму так і не давялося даведацца пра пазыцыю самога Канстытуцыйнага суду наконт пытаньня адпаведнасьці Канстытуцыі і міжнародным дамовам палажэньняў артыкулаў 120, 122, 123 і 124 КПК РБ. На думку Леаніда Сьвеціка, магчымасьць непасрэднага звароту грамадзян у Канстытуцыйны суд станоўча паўплывала б на разьвіцьцё дэмакратыі ў краіне і паскорыла б фармаваньне грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі.**

## Пэнсіянэр-праваабаронца просіць абароны ў пракурора


Валер Місьнікаў

**Віцебскі пэнсіянэр Валер Місьнікаў зьвярнуўся да пракурора Віцебску з заявай аб правядзеньні праверкі і прыняцьці неабходных мер для прыцягненьня да адказнасьці работнікаў Тэрытарыяльнага цэнтру сацыяльнага абслугоўваньня насельніцтва Першамайскага раёну Віцебску. На думку сп. Місьнікава, работнікі гэтай установы на працягу трох гадоў наўмысна выдаюць яму недакладную інфармацыю пра яго матэрыяльна-бытавое становішча.**

Зьяўляючыся інвалідам другой групы, Валер Місьнікаў ня мае ўласнай кватэры і пражывае ў здымным пакоі. Ён лічыць, што мае права на сацыяльнае жытло, якое гарантаванае беларускім заканадаўствам. Аднак па надуманых і незаконным прычынах мясцовыя ўлады яму такога жытла не даюць. Для абароны сваіх правоў і законных інтарэсаў інвалід неаднаразова зьвяртаўся ў суд, але ніводзін суд гэтых правоў не абараніў, спасылаючыся на тое, што Місьнікаў ня мае правоў на сацыяльнае жытло, бо мае дзяцей, якія абавязаныя ўтрымліваць свайго бацьку.

Місьнікаў лічыць, што адной з прычын адмовы ў дачы яму сацыяльнага жытла зьяўляецца скажоная інфармацыя, якая зьмяшчаецца ў актах абсьледаваньня яго матэрыяльна-бытавых умоў пражываньня, выдадзеных установай Тэрытарыяльнага цэнтру сацыяльнага абслугоўваньня насельніцтва. Так, адзін з актаў выдадзены яму на блянку старога ўзору, форма якога адменена ўжо больш за год таму, а інфармацыя, зьмешчаная ў акце, на яго думку, знарок скажоная. На іншым акце адсутнічаюць подпіс кіраўніка і пячатка ўстановы. Апрача таго, на акце, у парушэньні правілаў вядзеньня справаводзтва, адсутнічае штамп установы і выходны нумар рэгістрацыі.

На думку Валера Місьнікава, у дзеяньнях работнікаў Тэрытарыяльнага цэнтру сацыяльнага абслугоўваньня насельніцтва Першамайскага раёну ўтрымліваецца склад правапарушэньня, прадугледжанага артыкулам 9.6 Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях (Адмова ў дачы грамадзяніну інфармацыі). Згодна з гэтым артыкулам, незаконная адмова службовай асобы ў дачы грамадзяніну сабраных у вызначаным парадку дакумэнтаў і матэрыялаў, якія непасрэдна закранаюць яго правы, свабоды і законныя інтарэсы, альбо дача яму няпоўнай або наўмысна скажонай інфармацыі цягне накладаньне штрафу ў памеры ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь.

**Валер спадзяецца, што пракурор Віцебску Юры Раманоўскі з усёй адказнасьцю паставіцца да яго заявы, належным чынам правядзе праверку і дасьць прававую ацэнку дзеяньням работнікаў Тэрытарыяльнага цэнтру сацыяльнага абслугоўваньня насельніцтва Першамайскага раёну Віцебску, дзякуючы чаму ў яго зьявіцца магчымасьць атрымаць прадугледжанае законам сацыяльнае жытло.**

## Вярхоўны Суд адмаўляецца разглядаць наглядныя скаргі

*Жыхар Віцебску **Аляксандар Холад** зьвярнуўся да старшыні Вярхоўнага суду Валянціна Сукалы са скаргай. У сваім звароце Холад паведамляе галоўнаму судзьдзю краіны пра адвольнае пакіданьне без разгляду намесьнікам старшыні ВС Андрэем Забарам і першым намесьнікам старшыні ВС Аляксандрам Федарцовым ягоных наглядных скаргаў на пастанову суду Чыгуначнага раёну Віцебску і просіць аднавіць яго канстытуцыйнае права на доступ да суду.*

Зьвяртаючыся ў Вярхоўны суд, Аляксандар Холад хацеў адмяніць несправядлівае, на ягоную думку, рашэньне суду Чыгуначнага раёну Віцебску, вынесенае яшчэ ў студзені 2013 году. Гэтай пастановай судзьдзя Сьвятлана Варатынская ў закрытым судовым паседжаньні задаволіла грамадзянскі пазоў па абароне гонару, годнасьці і дзелавой рэпутацыі былога дырэктара сярэдняй школы №27 Віцебску Ірыны Ісачанка. Паводле вэрдыкту суду, Холад быў абавязаны выплаціць І. Ісачанка грашовую кампэнсацыю маральнай шкоды ў суме 3 млн. рублёў і іншыя выдаткі суду і пазоўніка ў памеры 2,5 млн. рублёў.

Аднак спадар Холад не пагадзіўся з рашэньнем суду. Ён сьцьвярджае, што ня меў намеру зьняважыць гонар, годнасьць і дзелавую рэпутацыі І. Ісачэнка, калі зьвяртаўся зь пісьмовымі заявамі ў рэдакцыі газэт «Звязда», «Советская Белоруссия» і ў адрас адміністрацыі прэзыдэнта краіны. Ён толькі паведаміў журналістам і ў адміністрацыю пра тое, што, знаходзячыся на пасадзе дырэктара СШ №27, І. Ісачанка займалася падробкай дакумэнтаў на правядзеньне факультатываў па прадметах «сальфэджыё» і «хор», і частка грашовых сродкаў за нявыкананую працу вярталася ёй.


Аляксандар Холад

Тым не менш ані касацыйная інстанцыя, ані нагляд з боку старшыні Віцебскага абласнога суду Мікалая Хамічонка ня выявілі ў дзеяньнях і ў пастанове судзьдзі Варатынскай парушэньняў дзейнага заканадаўства і пакінулі яго бязь зьменаў, а скаргі Холада без задавальненьня.

Намесьнік старшыні ВС Андрэй Забара і першы намесьнік старшыні ВС Аляксандар Федарцоў наогул адмовіліся разглядаць наглядныя скаргі віцебскага актывіста з той прычыны, што, на іх думку, у тэкстах яго скаргаў зьмяшчаліся абразьлівыя словы і выразы. Больш таго, скаржнік быў папярэджаны Федарцовым пра тое, што ў далейшым у выпадку накіраваньня ім у Вярхоўны суд скаргаў і зваротаў, якія зьмяшчаюць абразьлівыя або паклёпніцкія выразы на адрас правасудзьдзя ці канкрэтных судзьдзяў, ліставаньне зь ім весьціся ня будзе.

*Аднак дзеючая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і шэраг міжнародных дамоваў наўпрост кажуць пра недапушчальнасьць пазбаўленьня беларускіх грамадзян доступу да правасудзьдзя. Бо бяз доступу да суду ня можа быць вяршэнства права, якое зьяўляецца паказчыкам цывілізаванасьці і разьвітасьці судовай сыстэмы любой краіны.*

*Зыходзячы з гэтага, Аляксандар Холад накіраваў скаргу старшыню Вярхоўнага суду Рэспублікі Беларусь Валянціну Сукалу з надзеяй, што галоўны судзьдзя краіны, як ніхто іншы, разумее важнасьць доступу грамадзян да справядлівага, незалежнага і кампэтэнтнага суду. І гэтае разуменьне прывядзе да скасаваньня неправасудных судовых рашэньняў і да разгляду яго нагляднай скаргі ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь.*

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайту http://dyjalog.info і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.